# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 33 (1172) ГОД XXIII БЕЛАСТОК, 13 ЖНІЎНЯ 1978 г. ЦАНА 60 гр.


Новыя вершы

*

*Нешта пройдзена,*
*Нешта знойдзена,*
*Прыгалублена,*
*Потым згублена.*
*А найлепшае не збываецца,*
*А найгоршае не забываецца.*

*І толькі родныя лясы*
*Знаходзяць нас ва ўсе часы.*
*І зоркі аганёк*
*Надзею шле здалёк*
*І абяцае шмат дарог,*
*Расчараванняў і трывог.*

*Ты толькі раз з дарогі збоч —*
*Паселіцца у сэрцы ноч.*
*Ад праўды раз адкруцішся —*
*Няпраўдаю атруцішся.*

*Трэ берагчы нам праўду слоў,*
*Як бор сваіх дзятлоў,*
*Як удава апошняе*
*Сваё дзіця...*
*І даражу я кожнаю*
*Расінкаю жыцця.*

**Пімен Панчанка**



*ПА РОДНАЙ ЗЯМЛІ. Жніўны краявід з ваваколля вёскі Залессе Нурэцкай гміны. Фота В. Рудчыка.*

Пошукі і здзяйсненні

# РОДАМ СА СЛІВАВА

Калі падумаць, чым вылучаецца наш беларус - падляшук, то перш за ўсё кідаецца ў вочы яго працавітасць. Зазірніце толькі ў сялянскую клуньку: з аднаго боку сянцо, з другога — жытка, на іншым таку — пшанічка, а насупраць — аўсок, гарошак ды грэчачка на вышках у самы строп, у сутачках жа — ячменек. І ўсё так акуратненька, гладзенька, пласт у пласт складзена, снапок у снапок уладкавана, каб камлямі да току, а каласкамі ў сярэдзіну. Потым гэта выграблена-выгладжана, а калі што, то і касою зраўняна-падбрыта. І адчыняеш цяжкія падвойныя дзверы-вароты, быццам разгортваеш нейкую дзівосную кнігу—аповесць пра розныя пахі мінулага працавітага лета: тут чэрвень дыхае залітымі дзецялінаю паплавамі, ліпень тхне духатою жытняга палетка, жнівень патыхае аўсяным соладам...

У такіх чароўнасцях якраз вырас і выхаваўся інжынер-аграном Янка Тапалянскі. Хутар яго бацькі на Сліваве каля Клейнікаў — гэта іменна такое гняздзечка, дзе навокал прасціраюцца ўраджайныя палі, а сяліба з садам пераглядаюцца ў люстры сажалкі. І падобна як у абодвух братоў і сястры, у яго на ўсё жыццё ўкаранілася ўлюбёнасць да вёскі, да салідная працы, да акуратнасці ва ўсім.

Яшчэ бyўшы вучнем Бельскага беларускага ліцэя ён разам з Мікалаем Юзафчуком, Мікалаем Урублеўскім і іншымі ўзначальваў тадышнюю школьную арганізацыю Саюза польскай моладзі. Яго заангажаванне ў вучобе, грамадскай дзейнасці, спорце не спынілася і тады, калі ўвосень 1956 г. дваццацігадовы юнак прыйшоў працаваць настаўнікам у Трасцянку. Тут ён заняўся гарцэрскай арганізацыяй. Зацікавіў школьнікаў спортам, між іншым, за заробленыя пры зборы грэчкі ў сельскагаспадарчым кааператыве грошы школьнікі набылі камплект для настольнага тэніса, і неўзабаве трасцянская сямігодка стала вядучай у павеце ў гэтым відзе спорту.

У Стаўку каля Трасцянкі яшчэ ў пачатку нашага стагоддзя знаходзілася настаўніцкая семінарыя, што рыхтавала кадры для пачатковых народных школ. Потым яна па розных прычынах заняпала, але памяць аб ёй у трасцянцаў захавалася. І пры народнай уладзе яны сталі рабіць захады аб узнаўленні сярэдняй школы ў сваім сяле. У гэтую справу ўключыўся і малады настаўнік Янка Тапалянскі. Пачалі ад пабудовы цагельні, каб мець матэрыял, і праз тры гады, у 1970 г., паўстаў новы школьны будынак, а ў ім тады ўжо другі год кіруючы школай Я. Тапалянскі садзейнічаў найбольш патрэбнай у гэтай ваколіцы асветнай установе — школе сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Пры ёй ён завёў вялікі агарод, падумваў аб садзе. Радавалася сэрца кіраўніка абедзвюх трасцянскіх школаў, калі бачыў, як пачынае фармавацца маладое пакаленне адукаваных сялян, улюбёных у працу на родным палетку.

А ці магло быць інакш, калі і сам іх выхавацель усяго сябе аддаў гэтай справе? Гэта ж ён на чутку аб арганізаванні аддзялення беларускай філалогіі ў За-

(Працяг на стар. 4)

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

Знаходзяцца яны ў адным з самых зацішных і маляўнічых куткоў Беласточчыны, на правым узбярэжжы ракі Супраслі, якраз у міжрэччы, дзе ад усходу ўпадае ў яе рэчка **Слоя**, ад захаду ж — рэчка **Сакалда.** Незаезная гэта мясціна, з яе усюды далёка: да палустанка ПКСу ў Сафіполі (на шашы Беласток-Баброўнікі) аж 10 км, у Сакалдзе (на шашы Супрасль—Крынкі) мала што менш, бо 8 км. І калісьці тут таксама не было вялікага руху: у гэтых месцах сутыкаліся паўночная ўскраіна **Блудаўскай пушчы** з паўднёвым ускраем **Крынкаўскай пушчы,** а рака Супрасль і была мяжою паміж абодвума дрымучымі старажытнымі лясньмі масівамі. Несумненны след двух сярод 21 обрубаў, на якія дзялілася Крынкаўская пушча ў палове XVI стагоддзя: Іўнікі і Мох Вялікі, астаўся ў назве палетка боркаўскага поля: **Сярэднія Еўнікі,** і ўрочышча ў лесе — **Омхі.** У тыя часы гэта было надта ж зручнае месца для розных лясных промыслаў. І памяць пра іх захавалася перш за ўсё ў самой назве мясцовасці. Борам здаўна называлі не толькі стары хваёвы лес, што рос на пясчанай глебе, усланы імхом, верасам ці чарніцамі, але таксама і значную колькасць борцяў з дзікімі пчоламі, што складалі адну цэласць і належалі звычайна аднаму бортніку. Такі вялікі бор пчолаў дзяліўся на меншыя — боркі. І, відаць, яны былі тут параскіданы па лесе на пагорках, што ўзвышаюцца над меданоснымі рачнымі далінамі (у іх ліку — **Мармаліхай**) ды верасавіскамі. Пры сваіх борцях ад вясны і да восені сядзелі бортнікі ды да-




глядалі пчолаў. Яны і далі пачатак сённяшнім Боркам. Мо сярод іх і быў нейкі Бобка, ад якога і пайшла назва часткі вёскі — **Бобкаў Груд?**

Ужо з пазнейшымі часамі звязана назва наступнай часткі вёскі — **Бяндзюга.** Яшчэ гадоў таму 30—40 на рэках Супраслі і Сакалдзе аж гудзела ад воклічаў арэляў, што сплаўлялі дрэва ў Васількова, у Тыкоцін, а нават і далей — у Гданьск. У гэтых ваколіцах было аж тры бяндзюгі: дзве на Супраслі — у Борках і каля **Залатой Гары** і на рэчцы Слоі ў месцы, якое цяпер чамусьці афіцыяльна завецца Кандыцыя. На іх сасновыя або яловыя (ліставыя дрэвы былі цяжкія, патаналі) „штукі" каціла ў раку, збівалі „арэльскімі" гваздамі ў залежнасці ад таўшчыні на 6—12 „штук" у „глёнкі". Потым 10—18 „глёнкаў" звязвалі драцянымі „стрыкоўкамі" ў „пас". Калі не было дроту, то вырубвалі тонкія (у папярочніку 3—4 см) гонкія бярозкі, парылі ў агні, скручвалі, вязалі і выходзіла з дзвюх бярозак „стрыкоўка" даўжынёю да 3 м, ёю і вязалі насукась „глёнкі". Сплаўлялі „пасы" вясной і восенню, калі вада была сярэдняя і рэчышча не зарośшае водарасцямі і зеллем. Дрэва „гнаць" было нялёгка, асабліва каля Залатых Гораў, дзе рака Супрасль была перакапана.

Такім жа традыцыйным промыслам для боркаўцаў была праца ў лесе пры вырубе і вывозцы драўніны, капанні карпіны і звозцы яе да майданоў **у Лазніску і Плянтах,** дзе з іх гналі шкіпінар (тэрпентыну), а астаўшыся вугаль разбіралі кавалі. Хадзілі таксама „цягнуць" смалу-жывіцу, жанчыны ж садзілі лес і даглядалі лясныя школкі і пасадкі. Так, спакон веку славіліся боркаўцы сваёй працавітасцю і... непадатлівасцю ў змаганні з розным вызыскам.

Легенда кажа, што яшчэ пры паншчыне тутэйшыя прыгонныя сяляне ўзбунтаваліся, не выйшлі на работу да пана. За гэта той загадаў ім за адну ноч перанесціся з насіджаных сялібаў з ураджайнымі агародамі на пясчаны

Працяг на стар. 4

# ТАК БЫВАЕ...

## ГЭТА НЕ ПА-БАЦЬКОЎСКУ

Бывае так, што хлопец і дзяўчына пазнаёмяцца, не пазнаюць дакладна адзін другога і пасля кароткага знаёмства жэняцца. А праз нейкі час пераконваюцца, што яны розныя людзі, што супольнае іх жыццё для абоіх з'яўляецца мукай. Больш разумныя і культурныя спакойна, мірна разыходзяцца і супольна, без злосці выхоўваюць неяк дзіцё.

Але ў Анкуля ўсё было іначай. Ён са сваёй жонкай нажыў чацвёра дзяцей. І з жонкаю ў асноўным жыў нядрэнна да тых пор, пакуль не стаў ён праяўляць зацікаўленне маладзейшай жанчынай, якая мела няшлюбную дачку. І вось з гэтага часу ў хаце Анкуляў пачалася нязгода. І ўрэшце муж пакінуў сваю жонку Аню і чацвёра дзяцей і перайшоў жыць да новай жонкі. Праз нейкі час дабіўся ён разводу з Аняй. Але новая жонка патрабавала больш грошай, чым ён меў на супольныя выдаткі. Анкуль больш не мог даць, таму што плаціў аліменты на сваіх чацвярых дзяцей. Каб іх зусім не плаціць, вырашыў забраць двое старэйшых дзяцей. І пайшоў гэта зрабіць. Дзеці тады якраз каталіся на шугалцы. І ён забраў сілаю іх і адвёз не ў сваю хату, бо жонцы яны былі непатрэбныя, а да сваёй маці на вёску. Маці ён таксама рэдка калі наведваў, ні ў чым ёй не памагаў. Дзецям не было там добра, таму што старэнькая бабуля апрача малака нічога свайго не мела, ды грошай не мела, каб харчаваць дзяцей так, як належыць. Родная матка гэтых пакрыўджаных дзяцей у адну з нядзелек паехала па іх. Быў тады ў сваёй маці бацька тых дзяцей. Ведаў ён аб прывязанасці малышоў да роднай, ласкавай маці. Але нізашто не хацеў аддаць дзяцей. І, каб былая жонка не магла іх забраць, папаліў дзіцячую вопратку і абутак. Але дзеці, голыя і босыя, уцяклі да маці. Суседзі знайшлі такую-сякую адзежу. Горш было з абуткам. Але паколькі было гэта ў канцы чэрвеня, маці сваіх босых дзяцей прыняла на цягнік і прывезла іх у Беласток, у родны дом, да сваіх малодшых. І далей баіцца, каб былы муж зноў іх не выкраў, таму што не хочацца яму плаціць аліментаў. А перад законам быў бы ён у парадку, тлумачачы тым, што дваіх дзяцей ён сам выхоўвае.

**Міхась Сваяк**

# ФАЛЬКЛОР

## СЯМЕЙНАЯ




*Чэрвона каліна все лугі окрасіла,*
*молодая молодіца свое лета потратіла.*
*Я і лісце спускаю, бо морозы чую,*
*слёзонькамі обліваю, бо ліхого мужа маю.*
*Пошла-мондровала, бо ўсёй свет увідала,*
*за тобою, ліхі мужу, свое лета пострадала.*
*Нэ казаў мне батько, ані руодная маті —*
*сама его полюбіла — не на кого нарыкаті.*

Ад Шумелюк Анны, 82 гады, вёска Рыбалы гм. Заблудаў, запісаў 19 мая 1978 г. Мікалай Гайдук, нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стужкі Людмілы Панько.

# Беларуская літаратура

Аляксандр Баршчэўскі

## НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЯКУБ КОЛАС — ЧАСТКА VII

**Сентыментальныя і народніцкія тэндэнцыі.** Развіццё беларускай літаратуры ў пачатку XX ст. у пэўнай ступені залежала ад літаратурных традыцый папярэдняга стагоддзя. Сляды літаратурнага мінулага знаходзім у творчасці многіх нашаніўцаў, у тым ліку і ў Коласа. Аналогія выступіла ў тым, што ў далейшым галоўным літаратурным героем быў беларускі селянін, а таксама ў тым, што многім нашаніўцам, таксама як і іх папярэднікам, не былі чужымі сентыментальна-народніцкія схільнасці. Пісьменнікі „Нашай нівы" канцэнтравалі ўвагу на сялянскай нядолі, цемры, супрацьстаўленні высакароднасці селяніна эгаізму пана. Некаторыя з іх у камічных творах паказвалі карыкатуральную карціну сялянскага прымітывізму і наіўнасці. Нашаніўцы наогул стваралі постаці крайнія, адназначныя: добрыя або дрэнныя, шчаслівыя або нешчаслівыя, бедныя або багатыя, альтруістычныя або эгаістычныя. Псіхічная дваістасць, скамлікаванасць для некаторых нашаніўцаў была яшчэ недаступнай. Гэтая рыса беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя была заўважана рускім гісторыкам літаратуры Л. Клейнбортам, які ў 1911 годзе напісаў:

„Неизменная черта — сентиментальность, отсутствие чувства меры... Нравится герой — он наделяется всеми лучшими качествами ума и души; не нравится — нет предела ненависти, и этой ненависти отвечает такое же множество отрицательных черт негодяя!"

Што датычыцца Коласа, дык у яго ранніх творах знаходзім не мала слядоў уплыву Багушэвіча і Лучыны. Аб кантакце з творамі Лучыны інфармуе Колас у сваёй аўтабіяграфіі: „Яшчэ да паступлення ў семінарыю пазнаёміўся я з беларускімі творамі Янкі Лучыны, якія пападаліся мне ў рукапісах".

Колас быў па сутнасці першым беларускім пісьменнікам сялянскага паходжання. З гэтай прычыны не меў ён натуральных схільнасцей да народніцтва, якое належала да праяваў шляхецкай і інтэлігенцкай псіхалогіі. Аднак, нягледзячы на гэта, сентыментальна-народніцкая тэндэнцыя паявілася ў яго ранніх творах. Была яна вынікам чужых уплываў.

У чым праяўляецца сентыменталізм і народніцтва ў творчасці Коласа? У крайняй канцэнтрацыі сялянскіх няшчасцяў, у паказе крайніх герояў-ахвяр, у паказе крайніх дэкларытыўна-бунтарных сялянскіх постацей. Паяўленне ў творчасці пісьменніка постаці бунтара і змагара, зразумела, звязана не з традыцыяй XIX стагоддзя, але з рэчаіснасцю і атмасферай першай рускай рэвалюцыі.

Да сентыментальных і народніцкіх трэба аднесці наступныя навелы Коласа: „Думкі ў дарозе", „Тры браты", „У горадзе", „Паўлюковы думкі", „Васіль Чурыла", „Сірата-Юрка", „У старых дубах", многія вершы са зборніка „Песні жальбы" і некаторыя эпізоды з рэалістычнай паэмы „Новая зямля" і рамантычнай паэмы „Сымон-музыка".

## У НАШЫМ АБ'ЕКТЫВЕ



*Трэба заўсёды крыху паправіць, адрэгуляваць... На полі ПГР-а Бобра Вялікая. Фота М. Гайдука.*

# ПАЛОСКА ДЗЯДЗЬКІ КВАСА

## ПРАЦЯГ БАНДАРУКА

„але быццам з дарогі затрымалай
ў месцы
быццам з адзінай здымкі што
прапала".

Во, папаў у сляпы завулак. Можа і не выбрантаецца.

„і гады ўсё ўзялі
і толькі асталася памяць"
І так бывае.
„Дык памяць напішу
дык запах той
найлепш як умею, у найлепшых
словах"

Раз папала пад руку, крапі іх — запах ці смурод. Лупі, добра нанюхаўшыся!

„і Ты мяне напэўна зразумееш"
Можа.
„хаця названага часта не было зусім"
Здагадаецца, як схоча.
„ці ўцякло перад сваёю назвай"
З памяці.
„Таму нядаўна Табе пішу".
Што ж, не ўлятучылася з памяці.
„Таму пішу Табе Вялікдзень
дваццаць першы"
Пара жаніцца.
„Не на сваім месцы зноў я сам"
Сам, бо самое нямаш.
„і смутак не ўпору"
То ўжо ж
„Не на месцы"

Смутак смуткам, на месцы ці не на месцы.

„і беласць урачыстую стала"

О, богу дзякаваць! Хоць раз у год стаў стол сталом, забеляхцеў.

„якой не дакраналі твае локці"
Не іначай, улятучылася зазнобушка.
„таму пішу Табе Царкву"
О, о! То не млына-развалюху?
„іконаў ўсёведаючасць"

Ну, ну, не будзь, аўтар, наіўны. І гэта з заграннічнай адукацыяй?

„царкву — тэатр"

Дзе граецца ўсё адна і таясамая драма.

„і дзень у які я быў акцёрам"
Напэўна на пуца браў шлюб з зазнобай.
„прагныя воплескаў там дзе публіка
можна ніколі не бачыць не чуць"

А пакуль што біс, брава! У царкве не чутныя.

„Дык можа напішу я спадзяванне
што заўтра будзе лепш"

Спадзяваўся дзед на мед і лёг спаць не еўшы.

„Ды ненароджанае растала перад
часам
экзамену

(Працяг на стар. 7)

Сямейныя суды таксама разглядаюць даволі многа спраў, у якіх маладыя людзі звяртаюцца з просьбамі аб дазволе на шлюб. Як вядома, ад 1965 года ў нашай краіне дзяўчына не можа выйсці замуж, калі не споўніцца ёй 18 гадоў, а кавалер не можа ажаніцца, калі яму няма яшчэ 21 года. Дзяржаўнае права правам, а жыццё дыктуе свае законы. Тут зноў звяртаюся да вопыту суддзі Яніны Сержыска, якая кажа, што:

— Маладымі людзьмі, якія выступаюць з просьбамі аб дазволе на шлюб, найчасцей кіруе звычайная лёгкадумнасць. Пры нашых грамадска-эканамічных умовах 16-гадовая дзяўчына або хлопец перад вайсковай службай зусім яшчэ не падрыхтаваны да самастойнага сямейнага жыцця. Яны вымушаны карыстацца апекай і дапамогай бацькоў. І таму суды вельмі неахвотна даюць дазволы на шлюб непаўналетнім.



*Добра, калі сям'я едзе на адным возе, як гэтыя сяляне, Ян і Марыя Рэнты з вёскі Міхнаўка — разам са сваёй унучкай Эляй, якая з Гайнаўкі прыехала на канікулы да бабкі і дзедкі.*

Нават пасведчанне аб цяжарнасці маладзенькай кандыдаткі ў жонкі нічога тут яшчэ не вырашае.

Хацелася б, каб памяталі аб гэтым нашы дзяўчаты, каб ведалі хлопцы, якім неадкладна хочацца жаніцца.

Пасля на свет прыходзяць дзеці. Малалетнія злачынцы, як даказвае судовая практыка, выводзяцца найчасцей з сем'яў, у якіх наступіў менавіта разлад сямейнага жыцця, у якіх часцей бывае на стале бутэлька з гарэлкай, чымсьці талерка са стравай, у якіх добрае, спагадлівае слова заступае вульгарная лаянка. Для прыкладу, у бальніцы ў Моньках ужо амаль год часу знаходзіцца дзіця, якога ніхто не хоча ўзяць дадому. Увесь медычны персанал бальніцы — ужо яго цёці і дзядзькі, а бацькі неяк забылі пра сваё дзіця.

Каб вывесці малалетніх са шляху злачынства, сямейныя суды выпрацавалі шматлікія сродкі і метады прафілактыкі. Дзейнічаюць, для прыкладу, прафесіянальныя і грамадскія куратары, наладжваюць яны пяць разоў у тыдзень заняткі ў спецыяльных куратарскіх асяродках, а летам цяжкіх дзяцей адпраўляюць у лагер, наладжваюць ім цікавыя экскурсіі. А ўсё гэта дзеля таго, каб сям'я ў нашай краіне састаўляла грамадскую супольку ўзаемна задаволеных, шчаслівых людзей. Тады і ў грамадстве ўсім нам лягчэй будзе жыць.

**Віктар Рудчык**
**Фота аўтара**

